# Аршанскі Рабфаковец



Галоўны будынак Аршанскага Рабфаку (з паўночнага боку)

5-ты выпуск

Аршанскага Рабфаку.

Юбілейная часопісь, ахвярованая 5-цігодзьдзю Аршанскага Рабфаку і яго 5-му выпуску.

Ворша,
5 чэрвеня
1926 году



# ЗЬМЕСТ.





Аршакрліт (Бел.) № 16480. Ворша, друк выд. газ. „Комуністычны Шлях“ імя Ф. Скарыны. Зак. № 1380—500 паасаб.

Пролетары усіх краеу, злучайцеся!

# Аршанскі Рабфакавец

Юбілейная часопіс, ахвярованая 5-цігодзьдзю Аршанскага Рабфаку і яго 5-му выпуску.

## АД РЭДАКЦЫІ.

Наша часопіс, ахвяраваная пяцігодзьдзю існаваньня Аршанскага Рабфаку, прыстасаваная к пятаму выпуску кандыдатаў у чырвоныя спэцы, ставіць сабе мэтай агледзіць пройдзены шлях.

Кожнаму рабфакаўцу, або вузаўцу, які вышаў з шэрагаў рабфакаўцаў, гэта часопіс павінна напомніць аб тым цяжкім, але прыемным часе, у які ён у пяршыню пачаў здабываць веды з нетраў сусьветнай культуры дзеля найлепшага будаваньня свайго будучага.

Рабфак—адзін з вынікаў перамогі Кастрычніка, установа маладая. Зразумела, што на пройдзенай дарозе быў цэлы шэраг недахопаў.

Наша часопіс сваім абагульненьнем працы за пяць год, будзем спадзявацца, дапаможа хоць-бы ў невялікай колькасьці, як найхутчэй зьнішчыць многія з іх. Наша часопіс—гэта першы вопыт, а дзеля гэтага рэдкалегія просіць не паскардзіцца на тое, што могуць быць недахопы як з боку формы, так і зьместу.

Калі пастаўленая перад намі мэта будзе хоць часткова дасягнута, то гэтым самым выпуск часопісі „Аршанскі рабфакавец“ павінен лічыцца мэтазгодным.

## ВЫПУСКНІКАМ АРШАНСКАГА РАБФАКУ.

(Артыкул Старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту СССР і БССР т. Чарвякова, які наведаў Рабфак у час прыезду у г. Воршу—13 травеня 1926 г.)

Аршанскі Рабочы Факультэт выпускае новую дружыну адукаваных рабочых і сялян. Гэтым самым выконвае сваю задачу падрыхтоўкі да працы, да кіраваньня дзяржавай працоўных ад станка і сахі. Можна быць упэўненым, што і гэтая дружына так, як і многія іншыя з другіх Рабфакаў, будзе сваім удзелам у працы прысьпяшаць умацаваньне і далейшае разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва. Трэба толькі памятаць Вам, дарагія таварышы, наступнае: Рабфак даў Вам пачатак ведаў, залажыў фундамант дзеля далейшага навучэньня. Дзе-б Вам ня прышлося быць, Вам трэба клапаціцца аб пашырэньні Вашых ведаў. Трэба, калі прыдзецца Вам адразу пасьля Рабфаку працаваць, працуючы вучыцца, а калі прыдзецца пасьля Рабфаку і далей вучыцца, то не забываць аб працы на грамадзянскай ніве, дзе работы многа, а работнікаў з ведамі вельмі мала.

Пажадаю Вам усім посьпехаў у далейшай працы.

*А. Чарвякоў.*

15/V—26 г. Ворша, вакзал.



А. Г. Чарвякоў, Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту СССР і БССР.



Старшыня Савету Нар. Камісараў БССР т. Адамовіч, які наведаў Аршанскі Рабфак 15/v 1926 г.



Тов. Ігнатоўскі Ус. М., сябра Презыдыуму ЦВК БССР, Старшыня Інсітуту беларускае культуры. Да 1926 г. Нарком Асьветы БССР.

# ДА ВЫПУСКУ РАБФАКА.

(Артыкул Сэкратара Аршанскага Акруговага Камітэту КП(б)Б).

Аршанскі Рабфак—пролетарская кузьня, дзе куецца політычная сьвядомасьць і культурны ўзровень рабочых і сялян Савецкае Беларусі, у 5 раз выпушчае прадстаўнікоў чырвонай комуністычнай інтэлігэнцыі. У цяжкіх матар'яльных варунках пры наліччы многіх недахопаў і недалікаў нарадзіўся Рабфак у 1921 годзе. Але дзякуючы гарачаму запалу і ўпартай рашучасьці перамагчы цемнату і няведаньне—гэтую праклятую спадчыну часоў царскага ўціску, рабочым ад варштату і сялянам ад сахі ўдалося запаліць кастрычнікавы ліхтар навукі на Аршаншчыне. Прайшоўшы папярэднюю падрыхтоўку ў школе грамадзянскай вайны і навучыўшыся вінтоўкай і кулямётам абараняць кастрычнікавыя заваёвы, рабочыя і сяляне здужалі захапіць у палон буржуазную навуку ды скарыстаць яе для замацаваньня гэтых заваёў, для будаваньня новага жыцьця на соцыялістычных падставах.

Аршанскі Рабфак выпушчае новы атрад у ліку 59 рабочых і сялян. Перад імі адчыняюцца дзьве сьцежкі: спыніць далейшую адукацыю і прыстасаваць адтрыманыя веды ў практычнай працы па пабудове соцыялізму, альбо працягнуць набываньне комуністычных ведаў у вышэйшых навучальных установах.

І ў першым, і ў другім выпадку трэба памятаць адно, што тэорыя бяз практыкі і практыка без тэорыі ня ў сілах разьвязаць тыя аграмадныя задачы, якія намеціў XIV Партзьезд. Кожны рабфаковец, калі будзе магчымасьць прадаўжаць навучэньне. не павінен адрывацца і ўхіляцца ад соцыялістычнага будаўніцтва, ад працы сярод працоўных масаў нашае краіны. Трэба ўмець знайсьці і час, і магчымасьць, і жаданьне і для навучэньня, і для соцыялістычнага будаўніцтва. Таксама той рабфакавец, якому прыдзецца зьвярнуцца назад да варштату, альбо сахі, павінен вышукаць час для замацаваньня і паглыбленьня нажытых ведаў.

Ад імя Акруговага Комітэту Партыі прынашу шчырае комуністычнае прывітаньне і пажаданьне сіл, здароўя й посьпехаў у Вашай далейшай працы і барацьбе.

*Б. Стасэвіч.*

А. Акулік.

# 5-ці годзьдзе Аршанскага Рабфаку.

Аршанскі Рабфак зьяўляецца непасрэдным наступнікам Пролетарскага Унівэрсытэту, які існаваў у Воршы з 10 лютага 1919 г. Юрыдычнае афармленьне Рабочага Факультэту адбылося 1 сакавіка 1921 году, але фактычна ён існаваў у нетрах Пролетарскага Унівэрсытэту яшчэ з восені 1920 г. Такім чынам, споўнілася 6 год з часу фактычнага існаваньня Аршанскага Рабфаку, а гэта адзначае, што ён зьяўляецца старэйшым з Рабфакаў БССР.

У пачатку сваіго існаваньня Рабочы Факультэт Аршанскага Пролетунівэрсытэту меў на падрыхтоўчым і першым асноўным аддзяленьнях—168 студэнтаў. Акрамя таго, у той час ён меў свае аддзяленьні: на ст. Ворша—102 чал.—усе рабочыя і служачыя чыгункі; на Баранскім (цяпер „Чырвоны Кастрычнік") цьвекавым заводзе—64 чал. і на Выдрыцкім заводзе—43 чал.

Рабфак зьмясьціўся ў будынку б. жаночай гімназіі, што разам з другім 2-х павярховым будынкам, у якім зьмяшчалася бібліотэка з 5168 томамі кніг, чытальня і некалькі пакояў для дапаможных установ, здавальняла яго патрэбы. Першы склад студэнтаў Рабфаку перайшоў з Пролетарскага Унівэрсытэту ў ліку 216 чал.



Прэзыдыум Аршанскага Рабфаку.

Матар'яльная забясьпечанасьць студэнтаў нездавальняючая. Інтэрнату і сталоўкі ня было. У аддзеньні і бялізьне патрэба была вялікая. Грашовая стыпэндыя ня выплачвалася за адсутнасьцю грошай. Паёк выдаваўся ў залежнасьці ад рэсурсаў Прадкому. Лектарскі склад Факультэту складаўся з 21 чал., у значнай сваёй часьці падыходзячых да выкладаньня на Рабфаку. Гаспадарчую часьць абслугоўвалі 17 чал.

З восені г/г., значыць, з пачатку 1921-22 вуч. году Рабфак зажыў больш нормальным жыцьцём. Папоўніўшыся новым прыёмам у 194 чал., Рабфак пачаў новы вуч. год у складзе 410 студэнтаў; яны па свайму складу дзеляцца:

| Партыйны склад | | | Нацыянальны склад | | | Социяльны склад | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| РКП | КСМ | Бесп. | Яўр. | Руск. | Інш. | Раб. | Сял. | Служ. |
| 60 | 87 | 263 | 263 | 117 | 30 | 182 | 72 | 156 |
| 14,6% | 21,2% | 64,2% | 64,2% | 28,5% | 7,3% | 44,4% | 17,6% | 38% |

Здабыты 2 будынкі пад інтэрнат на 64 чал., але зьмяшчалася ў ім 98 чалавек

У гэтым вучэбным годзе Рабфак зрабіў свой першы выпуск у 12 чалавек і на чэрвень м-ц 1922 г. на Рабфаку заставалася 307 чал. Гэтакі значны лік выбыўшых на працягу году (91 чал., або 22,2%) тлумачыцца ні чым іншым, як цяжкім матарыяльным палажэньнем Рабфаку.

Лектарскі склад к канцу году стабілізаваўся і, па даным на чэрвень 1922 г., ён складаўся з 23 чалавек.

Падрыхтоўка к 1922-23 вуч. году вялася інтэнсыўна. У гэты час кіраваў Рабфакам т. Храпкоўскі, назначаны сюды спачатку 1922 году. Рамонт агульных памяшканьняў і загатоўка дроў зроблены за лік студэнцкіх госстыпэндый. К кастрычніку месяцу 1922 г. Рабфак прыдбаў 7 будынкаў пад агульныя памяшканьні на 212 чал. К прыёму назначана норма 80 чал., але прынята больш і к пачатку 1922-1923 вуч. году на Рабфаку было 402 студэнты.

Яны дзяліліся гэтак:

| РКП | | КСМ | | Бесп. | | Сябр. праф. | | Не сябр. | | М. | | Ж. | | Яўр. | | Рус. | | Паляк., латыш. і іншых | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 86 | 21,4% | 98 | 24,4% | 218 | 54,2% | 253 | 62,9% | 149 | 37,1% | 257 | 63,9% | 145 | 36,1% | 266 | 66,1% | 114 | 28,2% | 22 | 5,7% |

Толькі 370 чал. карысталіся стыпэндыямі і пайком, астатнія жылі на свае сродкі.

Як бачым, у складзе студэнтаў у параўнаньні з пачаткам 1921-22 вуч. году адбыліся значныя зьмены ў бок павялічэньня партыйнага і камсамольскага складу.

Паралельна, трохі пазьней (з 16/х—22 г.) адбыўся прыём на вячэрняе аддзяленьне Рабфака. Склад прынятых, у ліку 70 чал., асабліва цікавы з социяльнага боку: 66 рабочых (слесары, токары, кавалі, рамонтныя рабочыя) і толькі 4 савецкіх служачых.

Жыцьцё Рабфаку з гэтага вуч. году палепшылася. Грашовыя сродкі, студэнцкія і акадэмічныя пайкі і абмундыраваньне падвялі некаторы фундамант пад існаваньне Рабфаку і яго вячэрняга аддзяленьня. К канцу году Рабфак меў 9 агульнапамяшканьняў на 220 чал. Палепшана трохі абсталяваньне ўсіх устаноў Рабфаку, папоўнілася бібліотэка. Толькі дзякуючы энэргіі таго часнага Прэзыдыуму Рабфаку на чале з тав. Храпкоўскім, ды самаахвярам студэнтаў, якія часьць сродкаў сваіх адпускалі на агульныя патрэбы Рабфаку, апошні пераважыў гэты цяжкі год.

У 1923 г. было паднята пытаньне аб пераводзе Рабфаку ў Віцебск, але апошняе ня зьдзейсьнілася на працягу 3-х год, як відаць, за адсутнасьцю належных памяшканьняў у Віцебску.

Пры такіх, досыць цяжкіх, варунках Аршанскі Рабфак скончыў вучэбны год, маючы контыгэнт у 389 студэнтаў (выбыла за год па розным прычынам 13 чал.)

Другі па ліку выпуск складаўся з 84 студэнтаў. Дакладных даных аб тым, у якія ВУЗ'ы хто з іх паступіў, няма ў справах Рабфаку.

1923-24 вуч. год яшчэ больш узброеным прыступіў да працы. Будынак Рабфаку быў падрамантаваны, здабыты большыя будынкі для агульных памяшканьняў на 330 чал. Абсталяваньне падноўлена і павялічана. Новы прыём у 99 чал. давёў агульную лічбу студэнтаў да 390 чалавек, пры чым ужо ўсе яны карысталіся поўным соцыяльным забясьпячэньнем.

Па партыйнаму і інш складу яны паддзяляліся:

| РКП | КСМ | Бесп. | Сябр. профс | Не сябр. | М. | Ж. | Русск | Яур. | Паляк. | Лат. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 108 27,7% | 129 33,1% | 153 39,2% | 344 88,% | 46 12,% | 282 72,3% | 108 27,7% | 124 31,8% | 247 63,3% | 11 2,8% | 8 2,1% |

У параўнаньні з папярэднім годам мы зноў маем значнае павялічэньне партыйнага ядра.

Адначасна мы можам прывесьці і колькасны склад вячэрняга аддзяленьня Рабфаку на чыгунцы к пачатку гэтага вуч. году. З 118 студэнтаў — ніхто соцыяльным забясьпячэньнем не карыстаўся.

Дзяліліся яны гэтак:

| РКП | КСМ | Бесп. | М. | Ж. | Русск. | Яўр. | Пал. | Інт. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 26 | 84 | 108 | 10 | 98 | 9 | 10 | 1 |

Загадчыкам вячэрнага аддзяленьня быў Н. Захарэвіч, а вучэбная часьць кіравалася сябром прэзыдыума Рабфаку тав. Куніным. Лектары Рабфаку ў значнай часьці абслугоўвалі і вячэрняе аддзяленьне на станцыі, загэтым узгодненасьць працы была поўная і, звычайна, пасьля сканчэньня 3-га курсу гэтага аддзяленьня, студэнт пераходзіў на апошні курс Рабфака. Гэта значна ўтаньняла кошт абучэньня Рабфакаўца Акрамя агульна памяшканьняў, аб якіх ужо гаварылася, былі праведзены меры па рамонту і абсталяваньню сталовай для Рабфаку. З восені 1923 г. студэнты Рабфаку харчаваліся ў сваёй сталоўцы, мелі свайго каня для гаспадарчага абслугоўваньня, завялі гаспадарку—пародзістых сьвіней. Усё абсталяваньне, за адсутнасьцю спэцыяльных сродкаў, рабілася на стыпэндыяльныя грошы—студэнты ўяўлена йшлі на гэта, ня гледзячы на свае мізэрныя сродкі.



*А. Акулік, загадчык Аршанскага Рабфаку.*

Але трэба адзначыць, што справа з каштарысам з мясцовых сродкаў, на якія Рабфак перайшоў з вясны г/г, зацягнулася і першую пару прышлося жыць тугавата. К канцу лістапада 1923 г. высьнілася, што заміж пайка студэнты будуць адтрымліваць па 3 чырв. рублі, што разам з інш. відамі задаваленьня патрэб, даводзіла стыпэндыю студэнта да 6 руб.

Цэлы шэраг гаспадарчых мерапрыемстваў, як заснаваньне шавецкай майстэрні, адчыненьне цырульні і інш. дапамаглі студэнцтву і прэзыдыуму выйсьці з палажэньня і к канцу 1923-24 вуч. году застацца тольк: з нязначнаю запазычанасьцю. Можна зрабіць вывад, што на 1923 24 вуч. год агульнымі сіламі студэнтаў і прэзыдыуму Рабфаку ўдалося стварыць больш-менш здавальняючыя ўмовы для працы.

1923-24 вуч. год адзначыўся ў жыцьці Рабфаку яшчэ тым, што ў другім паўгодзьдзі Аршанскі павет у парадку пашырэньня Беларусі быў далучан да БССР і Рабфак увайшоў у лік установаў НКА БССР. Але да канца вуч. году прэзыдыум Рабфаку ўсё яшчэ трымаў сувязь з Наркомасьветы РСФСР, адтрымоўваючы ад аддзелу Рабфакаў указаньні акадэмічнага характару. Зносіны з установамі БССР толькі яшчэ завязываліся і да мая месяца іх нельга лічыць цьвёрда ўстанавіўшыміся. У сувязі з далучэньнем да БССР, к палавіне мая стварыліся на Рабфаку грашовыя затрудненьні, бо Наркомасьветы БССР не адпусьціў грошаў дзеля аплаты асабовага складу ў такім разьмеры, як гэта ўдалося ў апошні час узяць ад Віцебскага Губспаўкому. Прышлося скараціць цэлы шэраг гаспадарча-тэхнічных пасад, скараціцца па вуч. часьці. Нельга прамінуць і веснавую ў гэтым (1924)годзе соцыяльную чыстку студэнтаў. Вынік чысткі—звольнена з Рабфаку 35 студэнтаў 3-га курсу; 18 чал. з ліку іх былі васстаноўлены Цэнтральнай Камісіяй. Скончыла Рабфак у гэтым годзе 156 чалавек.

1924 год адзначыўся на Рабфаку вялікай стратай у палове жніўня загадчык Рабфаку т. Храпкоўскі паехаў па службовай справе ў Маскву і трагічнапамёр, папаўшы з-за неасьцярожнасьці пад вагон трамваю. А ў хуткім часе, у верасьні м-цы, з Рабфаку выехаў, дзеля працы ў Маскве, яшчэ адзін з старых працаўнікоў—т. Кунін.



Тов. Храпкоўскі—загадчык Аршанскага Рабфаку ў 1922-24 г. г. Сябра КП(б)Б. Усім любімы, ён заставіў па сабе сярод студэнтаў добрыя успаміны. Яго несваечасовая сьмерць выклікала вялікі жаль з боку студэнтаў і усіх, хто яго ведаў, як працаўніка, як чалавека.

Новы склад прэзыдыуму, на чале з т. Акулікам, прыняў Рабфак арганізацыйна моцным, гаспадарча-замацаваным, але з значнай запазычанасьцю, з якой прыходзілася лічыцца ўвесь 1924-25 вуч. год. Штат Рабфаку быў скарочаны на 12 чалавек. Агуьнапамяшканьні дзеля студэнтаў і сталоўка амаль што здавальнялі патрэбу. Трэба было толькі урэгуляваць гаспадарчую справу з боку большай дысцыплінаванасьці студэнтаў, а гэтак сама даабсталяваць і адрамантаваць будынкі. Гэта патроху праводзілася на працягу ўсяго вуч. году і ў вялікай стопні зроблена ўлетку 1925 году, калі НКА Беларусі асыгнаваў досыць вялікія грошы на гэтую патрэбу.

Па пляну Наркомасьветы БССР контыгэнт студэнтаў на Аршанскім Рабфаку з 1924-25 вуч. году вызначаны ў 240 чалавек, а да прыёму назначана 60 чалавек. Дзякуючы таму, што вячэрняе аддзяленьне Рабфаку ў гэтым годзе ліквідавана, Рабфак прымушаны быў з належнага дазволу прыняць адтуль 28 чалавек, пасьля чаго лік студэнтаў павялічыўся да 288 чал. Стыпэндыяй, у разьмеры 12 руб., а к канцу году 17 руб. у м-ц, забясьпечаны ўсе студэнты. Лектарскі склад застаўся бяз зьмен, за выключэньнем аднаго новага лектара па беларускай мове, прысылка якога зьвязана з пачаткам беларусізацыі Рабфаку, аб якой я буду гаварыць ніжэй.

Новы склад студэнцтва дзяліўся гэтак:

| Сяб. КПБ | КСМ | Бесп. | Раб. | Сялян | Служач. | М. | Ж. | Бел. | Яўр. | Руск | Пал. і інш |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 71 24,6% | 136 47,2% | 81 28,2% | 206 71,5% | 62 22% | 20 6,[illegible]% | 23[illegible] 8[illegible],9% | 55 21,1% | 100 34,7 | 133 4[illegible],2% | 43 15% | 12 4,1 |

Існавала 8 груп, пры чым група з тэхнічным ухілам зачынена, засталіся грамадзянска-пэдагогічны, сельска-гаспадарчы і біолёгічны ўхілы, а з 1925-26—толькі першых два.

Гэты год адзначыўся зусім нормальнай вучэбнай працай і гаспадарчай дзейнасьцю. Толькі справа з правядзеньнем беларусізацыі і зачыненьне тэхнічнага ўхілу пацягнулі за сабой імкненьне значнай часткі студэнцтва перайсьці ў Рабфакі РСФСР, а астатняя частка ня зусім ахвотна бралася за вывучэньне беларускай мовы і літаратуры. Толькі к канцу вучэбнага году, дзякуючы працы студэнцкіх організацый, у першую чаргу бюро ячэйкі КПБ, наступіў пералом ў масе студэнцтва, акрамя старэйшага курсу, які ў большасьці, па сканчэньні Рабфаку саматужным шляхам рынуўся ў ВУЗ'ы РСФСР. Толькі 28 чалавек, або 31,1 % з агульнага ліку 90 ч., скончыўшых Рабфак, паступіла ў ВУЗ'ы БССР.

Прыём 1925 г. вызначыўся тым, што было прынята да 60 % сялян. Застаючыся пры ўстановленнай норме ў 280 чал., Рабфак змог прыняць у гэтым годзе 148 ч.,

бо зроблены вялікі выпуск і значная частка студэнтаў перайшла ў Рабфакі РСФСР і паўднёвыя Рабфакі з-за хваробы.

Цікавы новы прыём па свайму складу:

| Сябр. КПБ | Сябр. КСМ | Бесп | Рабочых | Сялян | Служач | М | Ж | Бел | Яур | Руск | Пал |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 19 12,8% | 53 35,8% | 76 51,4% | 5[illegible] [illegible]4,5% | 80 59,5% | 9 6% | 127 85,8% | 21 14,[illegible]% | 116 78,4% | 24 16,2% | 3 2% | 5 3,4% |

а ва ўсей масе ён выразіўся ў наступным відзе:

| Сябр. КПБ | Сябр. КСМ | Бесп | Рабочых | Сялян | Служач | Інш | М | Ж | Бел | Яур | Руск | Пал |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 73 26,4% | 115 41,7% | 88 31,9 | 140 50,7 | 115 41,7% | 10 3,6% | 11 4% | 232 84% | 44 16% | 166 60% | 75 27% | 22 8% | 13 4,8% |

Мы бачым, што ў той час, як склад папярэдніх гадоў замацняўся ў партыйным напрамку з году ў год, прыёмы апошніх двох год даюць памяншэньне лічбы партыйцаў, у большай часьці маладых—1924, або 1925 году і пераважаючую лічбу беспартыйных. Нацыянальны склад зьмяніўся ў бок пераважаючай лічбы беларусоў. Гэтакая зьмена ў складзе студэнцтва выклікала ўзмацненьне пазашкольнай політ-выхаваўчай працы на Рабфаку, дзеля якой Прэзыдыуму прышлося адшукаць патрэбныя сродкі.

Беларусізацыя пайшла шпаркім тэмпам. Першы курс цалкам, а другі курс на 60% перайшлі на выкладаньне прадметаў у беларускай мове. Студэнцкія організацыі і дзелаводства Рабфаку перайшлі працаваць на беларускую мову. Выходзячы з курсу на беларусізацыю, Рабфак прымушаны быў зьмяніць значную частку лектароў, пярэчыўшых беларусізацыі, або ня могшых перайці на выкладаньне ў беларускай мове. Частка з іх вывучыла мову, або яшчэ вучыць. Такім чынам, к канцу гэтага вучэбн. году Аршанскі Рабфак прыняў выразна вызначаны характар беларускага Рабфаку.

Як новае ў жыцьці Аршанскага Рабфаку ў гэтым годзе, трэба адзначыць—скасаваньне колектыўнага вучоту пры пераводзе з курса на курс і правядзеньне індывідуальных залікаў выпускнікам, як вынік лініі на замацненьне акадэмічных ведаў рабфакаўца.

Студэнцкія організацыі вялі ўзгодненую працу з Прэзыдыумам Рабфаку ва ўсіх галінах жыцьця і заўсёды аказвалі значную дапамогу. Гаспадарчая частка па харчаваньню й іншым патрэбам студэнтаў амаль цалкам знаходзілася ў руках іх організацый.

Такім чынам, аглядваючы амаль шасьцёхгадовы шлях працы Аршанскага Рабфаку, трэба сказаць па шчырасьці, што гэта быў цяжкі, але пачэсны шлях. Зарадзіўшыся, як агульна-адукацыйнае аддзяленьне Пролетарскага Унівэрсітэту, у самыя цяжкія для нашае Савецкае Рэспублікі гады, ён дзякуючы упартай працы кіраўнічага складу і студэнцкіх організацый, перамог усе труднасьці і перашкоды і за чатыры выпускі даў 342 падгатаваных для прахаджэньня Вышэйшай школы студэнты. Пяты яго выпуск 1926 г. дасьць яшчэ 59 пролетарыяў-гэрояў навуковай працы. Яго выпускі сёлета ўжо выходзяць з некаторых вышэйшых вучэбных устаноў з дыплёмамі інжынэраў. Посьпехі студэнтаў Аршанскага Рабфаку ў Вузах ня прымушалі чырванець за сябе. Пагарда была нагародай усім працаваўшым над іх выхаваньнем і аддукацыяй. Мы ўпэўнены, што і новы выпуск падтрымае сваіх папярэднікаў у гэтым напрамку.

Мімаволі наплывае думка і аб тых няўдачах, якія перажыў Аршанскі Рабфак. Перавод яго з дзяржаўнага утрыманьня на мясцовы бюджэт Віцебскага Губспаўкому ў 1923 г. адбіўся хваравіта на яго існаваньні. Кожны год думка аб пераводзе Рабфаку ў Віцебск, яго асобнае ад ВУЗ'а існаваньне—не давалі сталага грунту для яго замацненьня. На астатку, замер зусім яго ліквідаваць выбівае з-пад ног глебу для працы. Гэта асабліва цяжка тым, хто патраціў многа сілаў дзеля яго організацыі і ўзмацненьня, для тых, хто вучыў у ім і хто вучыўся.

Ня гледзячы на гэтае, цяперашнія працаўнікі і студэнты з пагардай аглядваюцца на слаўны шлях, пройдзены Аршанскім Рабфакам, і пасылаюць усім былым працаўнікам і студэнтам гарачае прывітаньне. У працы сваёй яны не здадуцца, падтрымаюць слаўнае прошлае да канца.

# Пять лет учебной жизни на Оршанском Рабфаке.

В тяжелое время, во время перехода на новые рельсы хозяйственной и общественной жизни нашей страны, родился наш Рабфак. Учебно-вспомогательные учреждения в первые годы существования состояли из физического кабинета с химической лабораторией, естественно-исторического кабинета и библиотеки-читальни. Большую часть предметов и пособий обоих кабинетов и лаборатории факультет получил от Пролетарского Университета, из которого возник и сам факультет, отчасти же от других учебных заведений города, частью уже несуществовавших (реальное уч., гимназия.), частью продолжавших функционировать, как Педагогический Техникум, с которым факультет был об'единен в отношении помещения, преподавательского персонала, учебных пособий. Кабинеты и хим-лаборатория едва только удовлетворяли насущным требованиям учебного дела. Несмотря на неблагоприятные условия, учебная жизнь факультета все время текла нормально и даже бойким темпом. При

почти полном распаде учебных занятий в школах, факультет являлся едва ли не единственным учреждением в губернии, где занятия ни разу не прекращались из-за холода и других невзгод. Занятия происходили от 10-ти час. утра до 10-11 час. веч. Программа по большинству предметов проходилась полностью. Несколько тормозилась учебная работа вследствие постоянного недочета в достаточно квалифицированных педагогических силах, семестровыми зачетами, отсутствием необходимого количества учебников, пособий и крайне слабой подготовленностью поступающих на Рабфак. Лекторский персонал факультета состоял из лиц отчасти с высшим, отчасти со специальным педагогическим и общим средним образованием. Семестровые зачеты большей частью нарушали нормальные учебные занятия, вносили лихорадочность в среду слушателей. Преподаватели же, со своей стороны, учитывая время, которое уходило на зачетный период, вели работу большей частью лекционно, дабы выполнить программу. Это, в свою очередь, вело к тому, что преподаватели не успевали ознакомиться с составом слушателей, недостаточно уделяли внимания усвояемости. Связавшись с вузами в интересах изучения успеваемости студентов-слушателей нашего Рабфака, нам удалось выяснить недочеты постановки нашего учебного дела, из коих главным являлось недостаточное уменье студентов овладеть самостоятельно учебным материалом, несмотря на удовлетворительную обще-академическую подготовку. Последнее поставило на повестку дня методические искання. Ясно было одно, что при прежних методах работы оставаться дальше нельзя. Вопрос обсуждается в предметных комиссиях, на курсовых совещаниях. Согласно постановлению их, мы переходим к методу собеседований, докладов, частично приучаем даже (старшие курсы) эпизодически прорабатывать самостоятельно определенные темы. Учитывая некоторые местные условия и то, что значительная часть студентов Рабфака принадлежит к белорусской и еврейской национальностям, делаем небольшие отступления от нормального учебного плана (увеличиваем число часов по русскому яз. и некоторым др. предметам).



Загадчык вучэбнай часьці Аршанскага Рабфаку тов. Шафіраў.

Организовываем исторический и географический кабинеты, чертежную, снабдив ее всем необходимым даже 60 заграничными готовальнями. Библиотека, доставшаяся нам от Пролетарского Университета в количестве 5168 томов, совершенно неудовлетворявшая запросам рабочей аудитории, была пополнена достаточным количеством учебников, русской и переводной литературой, популярными книгами. В настоящее время библиотека насчитывает 19058 томов (из них: по обществознанию 3148 томов, по языкознанию 922 тома, по математике и природознанию 3272 тома, по критике и истор. литературы 1117 томов., по истории и географии 2531 том., беллетристике 2815 том., по белоруссоведению 1286 том. и т. д. Учитывая отрицательные стороны зачетной системы, мы начали, ввиде опыта, проводить ежемесячные собрания в группах, составленные из преподавателей данной группы и равного им числа студентов. Опыт этот у нас привился и давал вначале положительные результаты, пока некоторые преподаватели, под давлением студентов, перестали давать верную оценку работы. Изучая одновременно нагрузку студентов, мы пришли к выводу, что занятия в последние дни недели проходят не так интенсивно. После обсуждения этого явления в предметных комиссиях, было решено, опять таки ввиде опыта, считать днями отдыха все числа, кратные пяти (5-ое, 10-е и т. д.), отменив все другие праздники, предусмотренные кодексом Труда, кроме революционных. Бесспорно, интенсивность и производительность работы поднялась, благодаря более равномерному распределению дней работы и отдыха, но стало скоро чувствоваться, что времени на полное выполнение программы не хватает. С переходом к методу собеседований, докладов, частичной самостоятельной проработки, 5-ти дневкам, усвояемость среди слушателей повысилась, ответы стали более сознательными и глубокими, а 3-й выпуск в 1-ом полугодии в Вуз'е успел сдать зачетов больше предыдущих выпусков. Все это говорило о том, что слушатели наши уже получили небольшой навык к самостоятельной работе. Весною 1924 г. наш Рабфак, в связи с укрупнением Белоруссии, был передан Наркомпросу Б-сии

а с осени этого же года началась белоруссизация рабфака. Методические искания не были приостановлены. Уже сначала осени по некоторым предметам, главным образом, по общественным, начали лабораторную проработку, а с февраля 1925 г. весь первый курс был переведен на Далтон-план. В настоящем учебном году по Далтон-плану работают первые два курса. Конечно, Далтон-план дал много в области приучения слушателей к само-самостоятельной работе, улучшил качественность усвояемого, приучил к продуманным ответам, но нельзя закрывать глаза и на имеющиеся еще дефекты, главным образом, в способах выявления знаний преподавателями и в недостаточном еще закреплении знаний в памяти слушателей. Последнее заставляет нас продолжать свою работу в области методических исканий. Политика Наркомпроса, направленная к заполнению рабфаков более подготовленным составом слушателей, дальнейшее обогащение Рабфаков учебными пособиями, не ослабевающая работа преподавательского персонала, выискивание более подходящих методов работы дадут возможность претвориться в жизнь лозунгу: высокая квалификация студента-рабфаковца, как первый этап к достижению высокой квалификации красного спеца.

*Р. Шафиров.*

# Ячейка КП(б)Б за пять лет.

Наша ячейка КП(б)Б существует с декабря 1920 года. Организовалась она впервые при вечерней группе Рабочего и Сельско-Хозяйственного Факультета при Пролетарском Университете. Сначала в ячейке было 5 членов и 13 кандидатов. Полное свое оформление ячейка получила с начала 1920-21 учебного года, когда Пролетарский Университет реорганизовался в Рабфак. По отношению ко всему числу студентов (216 чел.) партядро составляло 19,5%. Тяжелое экономическое положение того времени не давало возможности рабочим поступать в Рабфак, и последний более чем на 50% пополнялся служащими и более зажиточн. крестьянами.

Ячейке немало приходилось работать над освобождением Рабфака от непролетарского элемента. Была проведена чистка Рабфака, по которой исключено 29 человек. Приходилось много работать над политразвитием членов ячейки. Справляясь с этими трудностями, ячейка росла как количественно, так и качественно. К концу учебного года ячейка насчитывала 43 члена и 12 кандидатов.



Бюро ячэйкі КП(б)Б Аршанскага Рабфаку ў 1925-26 вуч. годзе.

В 1921-22 уч. году всего студентов было 410 чел. Партядро равнялось 14,6%. По социальному составу в ячейке большинство было служащих и крестьян. Политически развитых членов партии было мало, от чего страдало политвоспитание членов ячейки. Прикрепленные партийцы от Окружкома не могли уделять достаточно времени для работы в ячейке из-за их перегруженности друг. работами.

В начале 1923-24 уч. года по отношению к общему числу студентов (390 чел.) партядро составл. 27,7%. Несмотря на увеличение роста ячейки, партработа стала уменьшаться. Благодаря слабой работоспособности бюро, 95% чл. ячейки не имело партийной работы. Недостаточное было и партруководство.

Между студенческими организациями и президиумом Рабфака возникали недоразумения, которые разрешались в Укоме. Партдискуссия вызвала необходимость проверки рядов советских и вузовских ячеек. Этой проверкой было вычищено из нашей ячэйки 15 человек.

В 1924-25 уч. году всего студентов было 288 человек, из них рабочих 71,5%, партядро к концу

года—29,2%. С улучшением партийного и социального состава Рабфака, улучшилась и партработа. Ячейкой достигнуто правильное понимание национальной политики. Начата белоруссизация Рабфака.

В 1925-26 учебном году всего студентов в Рабфаке было 276 человек. По социальному положению рабочих—50,7% и беднейшего крестьянства 41,7%. Увеличение процента крестьян в Рабфаке свидетельствует и о проведении в жизнь лозунга „Лицом к деревне".

К концу года по отношению к общему числу студентов партядро составляет 32,8%. Ячейка КП(б)Б по численному составу увеличилась, но по партстажу значительно уменьшилась. В прошлом году с 5 летним стажем было 31 человек, а в этом — только 14 человек.

Уменьшение партстажа об'ясняется тем, что в Рабфак поступает молодежь. С увеличением процента крестьян в Рабфаке, с начала учебного года, среди некоторых членов ЛКСМБ выявлялась еще не изжитая крестьянская психология. Ячейкой на это было обращено серьезное внимание.

Широко развернулась политвоспитательная работа. Организовано 3 политкружка, из которых 2 для членов и кандидатов КП(б)Б и 1 для беспартийных. Для членов ЛКСМБ было организовано 5 политкружков, которыми были охвачены все комсомольцы в количестве 136 человек. Занимались кружки по программе политшколы I и II ступени.

Для лучшего усвоения газетного материала были организованы 2 газетно-политических кружка, которые посещались преимущественно студентами I курса.

Все вышеуказанные кружки себя оправдали.

С начала учебного года членов и кандидатов КП(б)Б в ячейке было 73 человека. За учебный год ячейкой принято в кандидаты КП(б)Б 24 чел. Принимались комсомольцы и хорошо выявленные беспартийные.

Заслушивались отчетные доклады бюро коллектива Комсомола, президиума Рабфака и руководителей студенческих и общественных организаций о проделанной работе. Давались практические указания для дальнейшей работы.

Директивы Окружкома о проведении белоруссизации выполнены на 100%.

Для облегчения работы бюро ячейки организовало 2 комиссии: агитпроповскую и организационную. Агитпроповская комиссия проводит политпросветительную и агитпроповскую работу.

Организационная комиссия подготовляет вопросы к заседанию бюро, ведет учет и выполнение партнагрузки членами ячейки. 81% членов ячейки имеют общественную работу. Кроме внутрирабфаковской партийной и общественной работы, члены ячейки принимают активное участие в культурно-просветительной работе в профсоюзах и в деревне. Не имеют постоянной общественной работы только те партийцы, которые отстают от курса.

Взаимоотношения ячейки с президиумом и учебным советом хорошие.

Многие преподаватели втянуты в общественную работу: шефобщество, МОПР, Авиохим и др. Большинство преподавателей идеологически близки к партии.

*Рассматривая период существования ячейки с 1920 по 1926 год, можно констатировать, что в настоящее время, на ряду со своим ростом, она улучшилась и качественно как в своем составе так и во всех отраслях своей работы.*

С. З. Писаренко.

# Ячейка ЛКСМБ на Рабфаке.

Комсомольская ячейка была организована осенью 1921 г. Была она слишком малочисленна. На 216 чел. студентов ячейка насчитывала в своих рядах 16 чел., т. е. 7,4 проц. С каждым годом все больше и больше Комсомольская масса вливается в наш Рабочий Факультет. Комсомолец с военного фронта и фронта труда с такой же неутомимой энергией переходит на 3-й фронт—фронт науки. Уже в 1923 г. ячейка насчитывает в своих рядах 33,1 проц. по отношению ко всему составу студентов. Ячейка растет количественно и качественно. Широко развертывается общественная и воспитательная работа комсомольцев. Несмотря на трудные условия жизни и учебы рабфаковца, комсомольская ячейка начинает развертывать шефскую работу в деревне: устраиваются совещания секретарей деревенских ячеек, делают выезды в деревенские ячейки. Вместе с тем замечается целый ряд недостатков в нашей работе, которые полностью не изжиты до настоящего времени. Громоздкость ячейки (129 чел.) значительно осложняет руководство таковой. Перегруженность бюро мелкими вопросами мешало своевременному разрешению вопросов более общего и важного характера, в связи с чем замечается падение дисциплины. Бюро пришлось пересмотреть состав ячейки и очистить ее от чуждых

элементов. Для достижения реальности в своей работе, ячейка должна была реорганизоваться в коллектив об'единяющий курсовые ячейки. Каждая курсовая ячейка непосредственно стала вести воспитательную и общественную работу. За коллективом осталось только общее руководство. С набором 1923-24 г. значительно увеличилось рабочее ядро в Комсомоле. Нужно сказать, что до этого времени в ячейке Рабфака порядочное место занимали служащие. К настоящему времени наш коллектив насчитывает 140 ч., что составляет 50% всего состава студентов. По своему социальному положению преимущественно рабоч. и крестьяне.



Бюро колектыву ЛКСМБ Аршанскага Рабфаку ў 1925-26 вуч. г. дзе.

В настоящее время коллектив ведет большую воспитательную и общественную работу. В течение всего учебного года работало пять Комсомольских кружков, в которых занималось 105 чел, остальная часть была охвачена парткружками. Кружки занимались по сокращенной программе политшколы и проработкой решений 14 партс'езда.

В настоящее время работа кружков окончена, и можно будет сделать соответствующие выводы. Проверка показала, что большой процент комсомольцев значительно успели. Работа кружков в общем себя оправдала. Работают деревенский семинарий, в котором занято 28 комсомольцев. Имеются содружественные ячейки в деревне, которые непосредственно связаны с курсовыми ячейками. Для них выписываются регулярно газеты, посылаются книги, делаются систематические выезды. В общем, вобщественную работу вовлечено 60% всего состава комсомольского коллектива.

Подводя итог текущему учебному году, можно сказать, что наша ячейка здоровая, что мы значительно выросли, увеличив партядро. С 22% в начале учебного года 30% на сегодняшний день. На основании всего этого можно сказать, что работа ячейки в будущем пойдет более быстрым темпом, при чем она должна будет еще шире развернуть общественную работу, главным образом в деревне.

*В. Синюков.*

# Работа семинария деревенских пропагандистов

В начале учебного года—после первого собрания коллектива ЛКСМБ., в последних числах сентября месяца 1925 г., при бюро коллектива организован семинарий деревенских пропагандистов, насчитывающий в своем составе 28 человек. Он обслуживает 13 ячеек Оршанского района и 3 ячейки Кохановского района.

Занятия семинария проводились один раз в две недели. На занятиях в первой половине учебного года разбирались вопросы только кампанийского характера, как, напр.: о юбилее комсомола, об Октябрьской революции, о революции 1905 г. и т. д.

Причиной постановки вопросов кампанийского характера служило отсутствие программы. Во второй половине учебного года, на основании опыта первой половины и учета ненормальностей, работа семинария влилась в более правильное русло. Бюро коллектива выработало программу семинария, пересмотрело его состав, установило твердый кадр его, прикрепило окончательно семинаристов к определенной деревенской ячейке и установило связь с районным комитетом. Работа семинария в первом и во втором полугодии производилась по строго-выработанному календарному плану. Семинарист помо-

гал в работе деревенских ячеек, направляя внимание последних на кооперацию, на поднятие культурного уровня деревни, на поднятие сельского хозяйства и т. д.

Семинарий за один год работы успел провести 12 занятий, на которых разбирались вопросы об организации и строении ячеек комсомола, о пионер работе в деревне, о работе ячеек ЛКСМБ в деревне, постановления 14 партс'езда, о крестьянстве а также заслушивались отчеты семинаристов. Весь опыт, все знания, которые имелись у семинаристов, переносились в деревню в гущу крестьянской массы. Семинаристы не подавляли самодеятельности крестьян, а подталкивали и пробуждали ее.

Следует отметить и недостатки в работе семинария: слабый учет работы, отсутствие связи с профсоюзами, малое втягивание беспартийного студенчества в работу.

Следующий учебный год должен учесть весь опыт работы семинария, изжить все ненормальности в работе, организовать комиссию при шефобществе и, после трехмесячной передышки, с новыми силами приняться за работу.

*А.*

# Студенческие организации за 5 лет

Не малое значение в строительстве рабочих факультетов имеет работа студенческих организаций. Профессионально-об'единенные студенты, через свои организации—профкомы и Исполбюро, совместно с партийными и советскими организациями, последовательно, шаг за шагом, строили новую пролетарскую школу-Рабфак. Если все вышесказанное является общим для всех рабфаков, то по отношению к Оршанскому Рабфаку это приложимо абсолютно. Наш рабфак небольшого уездного города, не имеющего сколько нибудь крепкой экономической базы, не мог-бы развиться, если бы со стороны студентов и студенческих организаций не было вложено максимума сил и средств на его создание и оборудование. Коротенькая, пятилетняя история студенческих организаций нашего Рабфака, как нельзя лучше, показывает на ту творческую силу, то сознательное отношение к делу, которое заложено в недрах рабочего класса. В тяжелые годы родился наш Рабфак, его оформление совпадает с весьма неблагоприятными годами, характеризующимися тяжелым положением нашей страны. Строительство Рабфака начинается своими силами и проводится при деятельном участии Профкома. Из документов видно, что студенты, получая стипендию в 3 р. 50 к., отчисляли солидные суммы на покупку дров, ремонт общежитий, приобретение учебников и, кроме того, за собственный счет полностью оборудовали столовую со всеми принадлежностями. Студенческие организации, участвуя в хозяйственной жизни, этим самым создавали лучшие условия для работы студентов на Рабфаке. К сожалению не сохранился архив, и мы не знаем всесторонней работы первого Профкома. Из документов, сохранившихся в Президиуме, видна только хозяйственная работа Профкома. В сентябре 1924 г., согласно постановления 2-ой Конференции Пролетарского Студенчества Белоруссии. Профком реорганизуется в Исполбюро. При Исполбюро существуют



Спаўняючае Бюро Студэнцтва Аршанскага Рабфаку ў 1925-26 вуч. годзе.

Шли ведь, шли, не останавливаясь, три года. Первая остановка—Рабфак окончен. Оглянулись, проверили, учли недостатки и вперед . . . в ВУЗ. Меньше напряжения в учебе, больше времени для анализа окружающего быта и жизни, больше времени для воздействия на свой быт и быт окружающих—вот ВУЗ'овский путь.

Ни на минуту не забывая, что не только среда влияет на нас, но и мы можем воздействовать на среду, что знания только в союзе с высокой культурностью дадут тот тип вожатого, в котором нуждается рабоче-крестьянское государство, рабфаковцы-вузовцы станут достойными рулевыми рабочего класса.

Вперед, в поход, со свежей энергией, с верой в возможность преодоления всех преград, до следующей краткой остановки (окончание вуза) на пути к посту рулевого.

*Р. Л. Эпштейн.*



Галоўны будынак Аршанскага Рабфаку (з чнагапаўно боку).

# НАШ ГИМН.

А. Бурсак.

Песня на мотив: „Как ныне сбирается вещий Олег“.

Как ныне мы властно рабочей рукой
Жизнь свою направляем,
Вопреки желаниям всех наших врагов
Республику труда укрепляем.
Пусть грянет песня,
Наш гимн победный,
Знамена красные
Везде, где жизнь шумит, бурлит
2 раза: Победа там
За нашими знаменами,
За власть труда . . . Ура . . .
Науки гранит нас послали грызти,
Чтоб победа осталась за нами.
В новой борьбе за культуру, за быт
Над злыми врагами—панами
За учебу разом
Мы смело взялись,
И вот теперь поем,
Как наша жизнь шумит, кипит
2 раза: И шум весны
За нашими стенами
Зовет к себе скорей . . .
Три года рабфака уже позади,
Теперь перед нами загадка,
Что сбудется в жизни с каждым из нас,
Пойдет ли все тихо и гладко.
Но одно мы знаем,
И это верно:
За нами будущность
Везде, где жизнь шумит, бурлит и т. д.
Смелей же вперед! В поход, в поход!
Так нужно для нашей победы,
За дело труда, за рабочий народ,
За мировую коммуну.
Пусть грянет песня
Наш гимн победный,
Знамена красные
Везде, где жизнь шумит, бурлит
2 раза: Победа там,
За нашими знаменами
За власть труда . . . Ура . . .

# АДГІТАРЫЎШЫМ ДНЯМ

Кляшторны.

1.

Ў тую ноч,
Калі восень з галінаў
Абмятала лісты даждж[о]м,
Загарэлася сэрца калінай,
Загарэлася радасьць агнём.

Я пакінуў за ўзгоркамі вёску
Пад забойныя сьпевы сабак,
І пад лісьця пажоўклага лёскат
Я пашоў,
Я пашоў на Рабфак.

Надаела ветрам валацужыць,
Абуджаючы сьвістамі бор,
Яны мётламі ўздыбілі тучы
І рассыпалі тысячы зор.

Ў златакудрую сумную восень
Я калінай душу рассыпаў,
Я маліўся ў бяздонную просінь
І сузор'ямі шлях усьцілаў.

2.

Наш дзень-залатагрывы конь
Ня топча зоры пад нагамі,
А стальлю звонкаю падкоў
У заўтра дзьверы прасякае.

Мы кудры белыя каня
Ў снапы электрыкі завяжам
І каля старага плятня
Рассыпем трактарную сажу.

Бягуць за партаю гады,
Часамі грудзі закладае,
Але упартасьць—правадыр
Чорнабыльлём не выцьвятае.

3.

Дзьверы расчынены,
Раніцы мётлы
Золатам ўрэзаліся ў сінь;
Нехта зару пазалоціў;
Дзесь-ці гручаць кавалі.

Плача дзяргач у разлогах,
Сьлёзы гарадь на траве......
Вышлі мы,
Вышлі дарогі
Класьці пунцовай зарэ.

Вышлі на сінія росы,
Вышлі пад скогат і гром,
Каб ў гэту сумную просінь
Гаркнуць стальным салаўём.

4.

Не скажу і сказаць ня ўмею,
Што пялёсткамі ў сэрцы зьвініць,
Сёньня майска-пунцовую бельлю
Зарунеў маёй шчырасьці вір.

Аксаміцінца шчырасьць сьлязамі
Ў сінякудрані першых лістоў,
А словы растапталісь лапцямі
Аб падковы сталёвых гадоў.

Тры гады вадавозною клячай
Адгітарылі ў звонкую сінь;
Чым жа, чым жа я гэта адзначу
Ушаную чым мілыя дні?

Бачыў дні я ў ружовым угары,
Што цадзіўся скрозь шэрых радкоў,
І настаўнікаў белыя твары
Ў васільковай сугучнасьці слоў.

Эх, куды-б мяне жыцьце ня кінула
Хоць бы ў дзебры калючых шыпшын,
Гэтых твараў ніколі ня выкіну
Жоўталісьцямі з чулай душы.

І у вас надрываліся сілы,
Праца дні вымятала мятлой

. . . . . . . . . . . . . . .

Эх вы дні...
Я ад шчырасьці, мілыя,
Замучу Ваша люстра сьлязой.

Толькі ў час сізакрылага выраю
Над празрыстай сьцязёй журавоў,
Плача восень адна журавінамі
У ружовую прозалаць вод.

5.

І так,
Мы адгітарылі тут песьняй салаўінай,
Трымаю чамадан я з больлю журавоў,
І сыплю, сыплю словы-журавіны,
Як восень медзь кудлатую лістоў.

А думкі вострыя,
А думкі валам валяць,
Каралі сьлёз ў грудзёх ня устрымаць;
Сягоньня тут,
А заўтра з чамаданам
Мы будзем сьцежкі новыя таптаць.

А правандруюся,
З балючымі сьлязамі
Ня буду сум ў кілішкі абтрасаць,
Ня буду ў старанькім разьбітым чамадане
Сабе я гальштуха пяньковага шукаць.....

І так сябры,
Даруйце, уяўджаю,
Ўжо леваю рукой трымаю чамадан;
Я адзьвінеўшага так хутка мая
Нікому ў шчырасьці,
Ні ў песьнях не раздам.



Прыродазнаўчы габінэт у час працы III курсу

# ДВА ГАДЫ.

Муравейнік жывы, здаровы, энэргічны зашаламіў мяне. У ім многа сур'ёзнасьці, многа працы. Няма ўтомы. У ім многа вясельля й задору. Многа імкненьня да новага, нязьведанага, да навукі. Здаровы, мускулісты, загарэлы, з надзвычайным уяўленьнем сваей ролі, муравейнік трудзіцца, дыша ўсей істотай, пакуль ёсьць сілы на служэньне свайму брату. Няма сораму яму, дарасламу, часамі перарасламу, вазіцца з кнігай. На доўгі час ён прыкаваўся да яе, аж пакуль ня здолее цэлай галіны навукі, каб стаць карысным працаўнікам Савецкай сям'і. Ён з вялікай труднасьцю часамі нясе сваю паклажу, іншы раз аж да тэ-бэ-цэ, але не здаецца.....

На грабянёх хвалі ён нясецца ў лепшае будучае, аддае ўсяго сябе гэтаму будучаму. Ён, гэты муравейнік—дзіця Вялікага Кастрычніка, дзіця спаўшага доўгі час пад цяжарам уладара зямлі—ён уваскрос пад праменьнямі Вялікага Кастрычніка.

Імя муравейніку — Рабфак. Кожны муравей у ім — рабфакавец. Яны зышліся і зьехаліся сюды з далёкіх глухіх куткоў нашых паскарджаных вёсак, з нашых закапцелых фабрык і заводаў. Дзяцінства сваё, сілу і слабое дзіцячае здароўе яны прадавалі зьверу адкормленаму. Перад імі стаяў шлях іх бацькоў, шлях пазору, крыўды і зьдзеку. Шлях пакуты й сьмерці бяз часу. Магутны ўздым пакрыўджаных адным махам зьнішчыў зьвера. Адчыніў прасторны, шырокі небасхіл. Уладар свайго шчасьця, дабрабыту—ён упартай працай зьнішчыць астаткі агідлівага мінулага....

Я пазнаў цябе, рабфакавец, за кароткі час. Я зразумеў у табе гэтае злучэньне энэргіі, сур'ёзнасьці, вясельля й задору. Ты новы... Ты абновіш зямлю.... У тваіх руках шчасьце чалавецтва, бо ты — часьціна вялікай магутнай сям'і.

Вялікая праца двох год працякла перад маімі вачыма. Як міг адзін... У двох гадох я бачыў многа няўдач. Лажыліся яны на надламаныя раней сілы хваробаю цяжкаю, ставілі на калені.... Не здавайся, мой друг, вёў барацьбу і... вучыўся. Рэдка, рэдка выходзіў з шэрагаў без пары і тады скарга і жаль аблівалі сэрца. А часамі і ня гэта зводзіла з дарогі. І яшчэ цяжэй станавілася. Бо шкада бясконца, кал свой зьбіваецца з пуцявіны.

А то кідаеш ты на час кнігу. Ты сярод родных табе. Дзелішся з імі, што здабыў дагэтуль. Абяцаеш—далей болей. Цябе цэняць і шануюць, бо бачаць, што свой ты. Ніколі ня станеш чужым. Бедны беларус забагаціцца тваімі ведамі. Забагаціць зямлю, аддасьць, што прынясе яна, усім.....

А то ў час вясельля, гульні бачу я цябе. І гэта робіш ты непасрэдна, без падробку. Бо ты волат, ты ўсюды сам сабою застаешся.

Бывае, што разьлятаецеся вы ва ўсе бакі. На адпачынак. Падмацавацца. Пусьцее муравейнік. Глухі ён і бяздушны.

Там на полі сялянскім, або на заводзе за варштатам ня супыняюцца мускулы. Разам з другімі, старэйшымі і малодшымі, руплівая істота творыць скарб. Бязупынна, каб зноў узяцца за сваё, чаму ахвяраваў свае сілы.

Гэтак без канца. Пакуль служаць сілы, будзеш служыць усім, зьвязаны са ўсімі адным моцным, неразрыўным. Ты, разам з другімі, дасягнеш шчасьця. Бо ты волат.

*Алесь.*

# Солнце светит все ясней...

Теперь, когда пройдены трудные места на тернистом пути, можно оглянуться назад.

В голове какой-то хаос от нахлынувших чувств. Мысли длинной вереницей переплетаются друг с другом. Хочется что-то рассказать. Получаются отрывки—воспоминания прошлого.

....1918 год. Весна. Сижу на поле возле костра Мне 15-ый год. Я красноармеец. Голодный, в опорках, в грязной гимнастерке. Варю кашу. Предаюсь размышлениям. Никак не пойму смысла Октября. Зачем драться, когда все так разрушено, не хватает хлеба. В мозгу что-то непонятное, смутное: не понимая смысла революции, я весь поглощен ею. Я весь окрылен еле заметным лучом, который вижу вдали....Тянусь к нему.

Копаюсь в воспоминаниях давно минувших дней. Вспоминаю себя учеником в типографии. Прихожу раньше всех на работу. Надо подмести пол. Получаю два рубля в месяц. Несколько ударов хозяина.......Я мальчик в булочной. Встаю в три часа утра. Сплю, где попало. Получаю 15 коп. в день. Уволен. Следуемых денег не получил. В 1917 году опять в типографии. Забастовка. Просим добавки. Не дают. Уезжаю. Я на свободе....Сплю на улице, где попало.....Свобода.....

Мои размышления прервал пришедший красноармеец Жданов—коммунист.

— Что паря задумался?

Я ему доверяю все свои мысли. Он качает головой.

— Нечего унывать. Сейчас некогда. После подумаешь и поймешь.

И, обращаясь ко мне, как учитель к своему ученику, глубокомысленно добавил:

— Октябрь—это великое дело. Это солнце пролетариата. Пока еще не всем видны лучи этого солнца. Увидят. Чем дальше, тем солнце светит все ясней.

Я не совсем понял смысла этих глубокомысленных слов. Смысл этих слов я понял здесь, на Рабфаке.

* * *

Учусь. Это слово когда-то у меня было скрыто в глубоких тайниках моей души. Нет средств. Хочется есть. Учиться некогда. С какой завистью я смотрел на чистенько одетых учеников, идущих в школу. Эту зависть я частенко растворял в слезах и вместе с ними выливал ее наружу....

1918 год. Очутился в котле революции. Я ее не понимаю. Для того, чтобы понять, надо учиться, но некогда. Кругом бурливо кипит котел гражданской войны, разбрасывая свои брызги во все стороны. Мысль об учении заглушена. Демобилизован в 1921 году. Опять в типографии. Мечта „учиться", возлелеянная целыми годами, снова предстает предо мною, но уже с тем, чтобы осуществиться.

В 1923 г. поступаю на Рабфак-детище Октября. Много трудностей. Три недели на пище святого Антония. Принят. Зачислен на довольствие. Учусь. С каким под'емом я шел на первую лекцию. Глотаю слова преподавателя. Вступил в храм доселе мне неведомый. Предо-мною открывалась завеса неизведаного. Все окружающее приняло новую окраску. Все в новом свете. То, что когда-то видел контурами на отдаленном горизонте, теперь приблизилось и приняло стройный вид чего-то целого.

Таким образом, та мечта, которую безнадежно лелеял до Октября, осуществилась после него.

Так вот для чего нужен был Октябрь. Он разрушал старое, основанное на ханжестве, грабеже и рабстве, для того, чтобы строить новое, грандиозное. Открыл и дорогу к знанию тем, для кого она была недоступна.

* * *

Произошла революция в моих мыслях. Они стали дисциплинированными. Текут в определенном порядке. Были неуклюжими. Стали более гибкими. Рабфак шлифовал. Мастерская недурная. Три года преподаватели работали над шлифовкой моего мозга. Успех есть. Критерий есть. Ключ к знанию есть. Только отмыкай. Из сырья превратился в фабрикат. Довольно. Обрабатывайте других.

Ухожу с рабфака с фонарем, освещающим мой путь. Он осветил и Октябрь. Совсем другой вид принял. То, что когда-то постигал интуицией, теперь постигаю умом.

Постигнул и смысл слов моего, давно усопшего друга—Жданова: «Октябрь—это великое дело. Это солнце пролетариата. Сейчас еще не всем видны лучи этого солнца. Увидят. Чем дальше, тем солнце светит все ясне....»

Да, он был прав. Увидели. Я понял смысл этих слов.

«....Чем дальше, тем солнце светит все ясней....»

*А. Гентлер.*

# Как я поступил на Рабфак.

От станка и от плуга пришли мы сюда,
учиться и строить республику труда.

Три года. Всего лишь три года. Как быстро.... Как недавно это все было, между тем, многие из нас, почти все, стали неузнаваемы за эти три года. К примеру возьму хотя-бы себя.

Был я, как и многие из нас, простым рабочим парнем. Правда, я успел в 1921-22 г. пройти курс партшколы в Витебске (по тогдашнему комуниверситет), но я ее (партшколу) только „прошел“ не получив, по многим причинам, какого нибудь образования в прямом смысле. Слово „Рабфак“ для меня было непонятным шифром до 1923 г. Приехавшие к нам на летние каникулы (в 1923 г. рабфаковцы (Юдавин, Шалман, Зарецкий и др). раскрыли мне этот „шифр“, и их беседы со мной об учобе, о Рабфаке и т. д. возбудили во мне понятное чувство „зависти“ и страстое желание учиться, стать толковым, развитым общественником, уметь владеть серьезной книгой, хорошо разбираться в теоретических вопросах, что меня особенно интересовало. Это желание я сейчас-же решил реализовать. Не взирая на то, что некоторые беспокоились за мою „судьбу“ и запугивали голодным пайком (тогда на Рабфаке, кажется, выдавали $^3/_4$ ф. хлеба в день и какую то мутную жидкость к обеду), я через дня два подал заявление в Уком.

Уком удовлетворил мою просьбу. Через неделю моя кандидатура была утверждена Губкомом, и я отправился в путь счастливый.

Но вскоре мне пришлось убедиться, что путь этот вовсе не такой счастливый и не такой легкий, как я, по своей наивности, раньше думал.

Началась длинная история с путешествием по всевозможным учреждениям: из Губкома в Губкомол, из Губкомола в Губ. И. К. и др. „Губкам“, Наконец я попал....

Не сразу на Рабфак (это было бы слишком скоро). Попал я только к Кунину в кабинет (зав. уч. частью в то время). С большим усилием набрался дерзкой решительности и я заговорил: „Израиль Яковлевич, так и так мол. Меня сюда направили Губком и Губкомол, я к вам обращаюсь, т. к. я очень хочу учиться“. А он мне, примерно, так: „Что-ж вы ко мне пристали. Вас из Губкома прислали? (посмотрел в списки—есть). Так вы не волнуйтесь тов. Бурсак, не сегодня, так через год попадете на рабфак. Вы еще парень молодой и к тому кандидат. Успеете.“ Его ответ ударил по мне каленым железом. Я готов был остаться хоть голодать все время. Но не одним энтузиазмом жив человек. Время такое-нэповское, нужно пошамать, нужны деньги, но увы, карманы были пусты, т. е., они были полны отзывами, характеристиками, рекомендациями и т. п. вещами, мало устраивающими в такой обстановке. И вот меня устроили, т. е., я устроился.....дровосеком на станции.

Сентябрь к концу. Ребята с книжками в руках спешат в аудиторию на занятия, а я уже доработался....искалечил ногу на работе. Голодным волком гляжу на счастливых товарищей. Серые осенние тучи казались светлыми по сравнению с моими мрачными настроениями. Разбитый неудачей, накинул котомки на плечи, попрощался с друзьями и с горечью в душе поплелся обратно, так и не добравшись до долгожданной цели.

Но не успокоился, не хотел и, по своему упрямому характеру, не мог примириться с „поражением“. Слишком хорошо я усвоил старую поговорку: „Ученье—свет, неученье—тьма.“ Я тоже хочу учиться, и я стремлюсь к свету, и я не хочу остаться во тьме. Неужели я обречен на вечную темноту? Вот эти вопросы упорно засели в моей маленькой коробке и не уступали места другим, утешающим, успокаивающим мыслям. Они беспрерывно сопутствовали мне, разбухали в голове и довели до болезни.

Чтобы не дойти до катастрофы (что бывает с полусознательным человеком, а иногда...даже с высоко-сознательным) я решил остановиться в Витебске и добраться до какого нибудь учебного заведения.

Но, благодаря стечению благоприятных обстоятельств, я сверх-неожиданно поступил на Рабфак.

Однако, боюсь зарапортоваться. Очень возможно. что этот маленький рассказ (точно соответствующий истине) совершенно неинтересен для моих коллег—рабфаковцев, хотя я здесь привел пример не только личный. Но, товарищи, сегодня это разрешается вспомнить и даже желательно нам, прошедшим первую стадию превращения в пролетарских интеллигентов, оглянуться назад и подвести итог за пройденный нами путь. Он окажется для всех нас значительным и убедительно скажет нам: вперед, хоть в трудностях, вперед без оглядки, без сомнений, вперед к достижению своей цели.

Вперед!

*Бурсак.*

# Вчера—сегодня.

1919 год. Колчак, Деникин, Юденич, поляки заставляли наши мысли итти по определенному руслу. Смерть врагу. Мы плохо сознавали — мы чувствовали. Мы чувствовали, что на нас наступали царские генералы, мы чувствовали врагов внутри, мы чувствовали пошептывания обывателей, мы чувствовали ненависть и недоверие кругом. Ненависть, воодушевление, презрение, любовь смешались, и этот конгломерат чувств твердил: смерть врагу. Разве в это великое время „чувства“ мы думали о чем либо личном? Разве мы задавали себе вопрос: как-бы взяться за учебу? Было не до того.

* *
*

Время идет. Красная армия, фронт, плен, как-бы, отрезвляет меня. Я все больше и больше начинаю сознавать, что чего-то мне не хватает, нужно в чем то разобраться, нужно что-то понять, нужно осознать то, чего я раньше не понимал, а только чувствовал,—нужно взяться за книгу.

1923 год. Рабфак. Новая обстановка, новые люди, новая работа. Кипучая рабфаковская жизнь затягивает и меня. То, что казалось раньше трудным, непостижимым, сейчас без труда преодолеваю.

Помню себя летом 23 г. Я посещал кружок по изучению исторического материализма. Плохо понимал, а если и понимал, то не мог этого высказать: не мог связать двух слов. Теперь мне кажется это смешным. Помню себя делегатом на комсомольском с‘езде. Я в мандатной комиссии. Должен делать доклад (сколько было на с‘езде мужчин, женщин и т. д.) Какая забота, какая тревога....

Теперь читаю серьезные доклады, могу пускаться в длинные рассуждения по любому вопросу. Это не восхваление себя. Об этом я пишу потому, что каждый, прошедший школу рабфаковскую, претерпел этот постепенный процесс превращения.

Трудно в нескольких словах передать все то, что каждому из нас дал Рабфак. Но в этот час, когда мы одной ногой находимся в ВУЗ‘е и с Рабфаком приходится проститься, невольно, как-то не можем не рассказать об этом кому нибудь, не можем не вынести глубокой благодарности всем, кто не за страх, а за совесть помог нам выкарабкаться, помог нам нащупать почву под ногами. Ну, а дальше?... Дальше.... еще 5 лет упорного труда и мы на эту почву станем твердо.

*Левинтов.*

---

В. Жызнеускі.

# Мая думка.

Дзе-ж было, брат, думаць гэта....
Ў той даўно мінулы час.
Ты-б мужык ня быў студэнтам,
....Школы былі не для нас.

Служыў у пана. Быў рабочы,
Цярпеў здзекі ад яго.
Працаваў ты дні і ночы.
На ўгнетацеля свайго.

Аджыло.... Навек прапала.
Цяпер ўжо вольны ты «мужык».
Студэнт—толькі пролетары.
Вітаю! Ты сёньня выпускнік.

Ў ВУЗ паедзеш. Маеш права,
А як скончыш яго ты,
Карысным будзеш для дзяржавы,
І для працоўнай беднаты.

---

# Трехлетний путь.

Октябрьский семафор семафорит.
**(Демьян Бедный).**

Два часа. Лунный свет заполняет комнату. Мертвая тишина. Ребята глубоко спят. Лишь изредка тишина прерывается глубоким храпением части сладко спящих товарищей. Они устали. Устали от дневной работы. Устали от годовой работы. Изнемогли и расшатались от трехлетней грызни гранита науки. На миг отвлекаюсь. Мысленно притягиваюсь к луне. Вижу как она закатывается. Мозг вдруг наполняется хаотическими мыслями, плывущими одни за другими, временами сливаясь воедино. Нет системы. За этим лабиринтом мыслей вижу особняком, притулившись, стоит 1923 год, год поступления на Рабфак. Комсомол не хочет отпускать—„нужно сохранить кадр актива“, так гово-

рит он. Партийный Комитет против, он настаивает на посылке таких, как я, на учебу. 10 августа по постановлению Бюро Губкома РКСМ уезжаю в Оршу на рабфак. Скачок небывалый. Паутина пркшлого разрывается...

Трудно усваивались теоретические познания на первых порах: в мозгу станки и шум предприятия. Но время с молниеносной быстротой мчалось вперед, за ним мчались и мы. Каждый день приносил новость. Медленно крайне мучительно, с трудностями, благодаря долгой нашей спячке, открывались глаза. Тяжелые сундуки науки по строго выдержанному плану, не спеша, шаг за шагом, перед нами открывались, мы поражались сокровищами научных ценностей, лежащих в этих невиданных нами до сих пор сундуках. Если математика дисциплинировала наши мысли, то под руководством преподавательницы истории мы поняли законы развития человечества, узнали массу исторических фактов, усвоили в основном метод диалектического мышления.

Труден был первый курс. Приходилось чрезвычайно много работать, работали до 3-х часов ночи. Спали 5-6 часов в сутки, работали неумело но с охотою. Питались плохо, часто недоедали. Временами появлялась искра сомнения в свои силы и успехи, иногда даже хотелось забросить все и уйти обратно на работу. Внутри боролись две силы: одна за „уход“ из рабфака, другая за продолжение учебы.

1924 год. Второй учебный год. Встречаю его спокойнее. Рабфак становится другом жизни. Вводятся новые дисциплины, о которых я лишь слышал, но не имел представления: биология, физика и химия. Работа по усвоению предметов протекает с успехом. В комнате 1-го общежития можно было часто услышать спор по вопросам, имеющим отношение к истории и политэкономии. Алгебраические задачи решаем без особых трудностей.

Третий курс. Рабфак—синоним дома. Он кажется неот‘емлемой частью всей моей жизни. Складывается впечатление. что я и рабфак--одно и тоже. Вне рабфака, вне учебы я себя не мыслю. Окончательно сроднился с книгой. Предметы даются сравнительно легко.



Фізічны габінэт Аршанскага Рабфаку ў час працы.

Какой контраст между 1-м курсом и 3-м. Я себя не узнаю. Вот путь за 3 года рабочего-сапожника, мальчишки улицы.

1923-26 г. Как мало прожито и много пережито.

Помню, никогда не забуду, очереди за обедами в помещении, где сейчас городская больница. Не могу забыть и оборванных ботинок, неуклюжих валенок, и башлыков, в которые одевалось большинство студентов. Но что значат эти ничтожные эпизоды по сравнению с успехами в области знаний, на фронте науки? На моих глазах выросла целая плеяда товарищей, на ум приходит особо выделяющаяся группа студентов своей забитостью и тупостью, которая ничего не соображала, а сейчас, сейчас ей тригонометрические формулы нипочем, в символизме превосходно разбирается, легкой вещью „легальный марксизм“ считает.

Три года пройдены, они безвозвратно, навсегда ушли. Перелистывая страницы из жизни на Рабфаке, приходишь к выводу: сколько творческой, сильного и красивого заложено в массе рабоче-крестьянской молодежи.

Прав был В. И., когда в 1918 году на красной площади 1-го мая он сказал „Поколению, которому теперь 45-50 лет, не придется построить полностью

коммунизма, ему до этого времени не суждено дожить. Построят те, которым сейчас 13-14 лет". Из рабфаков выйдет не один десяток спецов, нужных пролетариату. „Портретов ЛЕНИНА не видно, подобных не было и нет. Века уж дорисуют, видно, недорисованный портрет". (Безыменский). Носителями этих веков будет рабоче-крестьянская молодежь вливающаяся в разные учебные заведения С этой мыслью будем также добросовестно учиться в ВУЗ'е, как училиись в дорогом Оршанском Государственном Белорусском Рабфаке.

*Я. Крючкович.*

# Ад плуга к кнізе.

Сям'я Рыгора, парабка маёнтку К.... складалася з наступных асоб: Рыгора, жонкі яго Матруны, сынка Міколы гадоў дзесяці і дзяўчынкі Гэлі.

Поўдзень. Невялічкая сям'я зышлася палуднаваць. На засланым абрусам стале стаяла міска з стравою. Ад стала к печы, ад печы к сталу шустра хадзіла Матруна.

Рыгор з дзяцьмі разьсеўся на лаўцы вакол стала. Сербануўшы разоў некалькі стравы, Рыгор, як бы зьвярнуўшыся да жонкі й сына праказаў: „Трэ' сёлета аддаць у школу". Мікола нічога не адказаў бацьку. Ён ня ведаў, дзеля чаго навука патрэбна.

Надышла нядзеля. Рыгор пашоў у царкву. Царква стаяла між маёнткам і вёскай, яна была вялізарная і абнесена тынам, тут-жа недалёка ў канцы вёскі стаяла невялічкая школа.

Праз гадзіны тры, вярнуўшыся з царквы, Рыгор пасьнедаў, напаіў коні і пашоў к пану. Выпрасіўшы дазвол аддаць сына ў школу, ён накіраваўся к папу.

Дом папа стаяў каля школы. Ціханька ўвайшоўшы, нізка схінуўшыся пападзьдзі, ён запытаў: „Ці дома айцец Лявоньці?" — „Дома", адказала пападзьдзя.

На гутарку з дзьвярэй высунулася высокая фігура папа ў шырокай вопратцы, з крыжам на грудзёх і лысінаю на ілбе. Рыгор нізка схінуўся і, падышоўшы, пацалаваў руку, якую поп сам выставіў.

„А чаго, міранін, хоча?", запытаў поп і дадаў: „Можа вясельле, ці хаўтуры здарыліся?" — „Не, айцец Лявоньці" і падаў паперку ад пана. Вочы забегалі па паперцы. Поп узяў аловак і штосьці напісаў.

„На, ідзі да настаўніка", зьвярнуўся ён да Рыгора.

Рыгор хутка дагаварыўся з настаўнікам.

Два гады хадзіў Міколка ў школу. Водзячы пальцамі па радкох, навучыўся ён чытаць і пісаць. Зацікаўлены навукою, ён многа чытаў кніжак. Скончыўшы школу, лёс прымусіў яго парабкаваць у маёнтку. Ня гледзячы на цяжкую працу і дрэнныя жыцьцёвыя ўмовы, здаровы дух і цела хлапца гаварылі, што з яго нешта выйдзе . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Надышла рэвалюцыя. Малады хлапец стаў у васяродку батрацкага і сялянскага руху, запісаўся ў камсамольцы. Тут пасяджэньні, там сходка і ўсюды Мікола ўпраўляецца. У гарадзкіх комітэтах ведалі яго і адгукваліся, як аб добрым організатары вясковай моладзі.

Няпрыкметна праходзілі гады. Мікола ўсё часьцей і часьцей аб чымсь задумваўся. Думка яго была аб вучобе.

Прышло лецейка к канцу. Разгарнулася навокал восень. Пачалі на дрэвах адзін ліст за другім жаўцець. Бульбы 'шчэ не капалі. Сонейка сьвеціць добра, але стаіць нізка. Вечарам, на захадзе сонца, едуць хурманкі ў павятовы горад. На аднэй з іх, апрануты ў кажух, сядзіць Мікола.

Гудуць слупы. Стаяць бярозы наабапал. Цягнецца шлях, як кінуць вокам. Здалёку відзен дым высокіх труб. Вось і горад з яго вялікімі будынкамі. Спрытна саскочыўшы з хурманкі, ён накіраваўся ў батрацкі комітэт.

„Дзень добры Вам" — „Здароў, Мікола. Як жывеш. Што новага ў Вас?", запытаў старшыня.

Палілася гутарка аб працы рабачкому, культпрацы і аб гаспадарцы. Мікола адказваў на пытаньні, сам пытаў ў старшыні, нарэшце кажа: „Вучыцца, браце, я хачу".

Праз некалькі хвілін Мікола падаў заяву старшыні, а на другі дзень камандыроўка ў Аршанскі Рабфак гатова.

Разьвітаўшыся з комітэтчыкамі, Мікола вышаў на вуліцу. Недалёка стаялі хурманкі. Яны чакалі яго. Вясёлы, ня чуючы пад сабою ног, накіраваўся будучы рабфакавец к хурманкам.

Хурманкі былі парожнія—ехалі хутка. Колькі здарэньняў было ў дарозе—не пералічыш. Тут пазнаёміліся з дзяўчынаю, там зачапілі воз местачковага. Ноч прашла хутка. Пачало сьвітаць, як хурманкі пад'яжджалі к саўхозу. Высока ў небе чуцен крык гусей. Дрэвы сталі ў задуменьні. У вёсцы адзін за адным перагукваліся пеўні, стараючыся ўзьняць усё жывое на ногі. Вось саўхоз з яго будовай і вялізарным гаем, парэзаным на сьцежкі. У гаі чырыкалі вераб'і і крычалі вароны. Сонейка ўстала, а з ім ажыло ўсё жывое. Гукі птушак, рыканьне кароў, брэх сабак—зьліліся ў адно. Над усім бралі верх гукі дуды пастуха.

У двор уехалі хурманкі. Застанавіліся каля стайн, і хутка распрогшы коні, хурманшчыкі разышліся.

У хаце Мікола ўглядзеў, што ўсе ўжо на нагах. Бацька пасьпеў пасьнедаць і выйсьці на поле. Маці кудысьці вышла. Каля стала сядзела Гэля і мазала бліны здорам. Скаварада з блінцом у печы заводзіла нудна-піскліваю песьню.

Ськівуўшы кажух, Мікола прысеў на лаўку. Стукнулі дзьверы. У хату ўбегла Матрэна—матка Міколы. Яна ўзяла чапялу, шустра выхапіла блінец з печы і кінула на стол.

„Сьнедай, сынку“, зьвярнулася яна да Міколы — „Не, мамка, ня хочу, мне спаць хочацца, сказаў Мікола і пачаў разьдзяваца. Паведаміўшы матку і Гэлю, што ён едзе вучыцца, Мікола крэпка заснуў.

Дні ішлі хутка. Да дню ад'езду Мікола працаваў у полі. Маці была занята падрыхтоўкаю да ад'езду сына.

Прышоў дзень ад'езду. Мікола ня вышаў ў поле. Склаўшы ўсе манаткі, ён сядзеў і думаў.

Сонца спускалася. Адзін за адным прыходзілі таварышы. Прышлі дзяўчаты. Хурманка стаяла каля хаты. На ёй сядзеў мужчына гадоў пяцьдзесят — Мікіта. Вынесшы ўсе рэчы на воз, Мікола разьвітаўся. Хурманка кранулася, і загрукацелі колы. Праз іх ляск чутны былі галасы: „Мікола, пішы нам лісты“. Кіўнуўшы галавою і азірнуўшыся некалькі раз назад, Мікола пагнаў каня. Не хацелася хлапцу пакідаць таго мейсца, дзе радзіўся.

*Маскаленка*

# Завіруха.

Завіруха... завіруха, шаптаў ён, абпершыся на вакно, увесь бледны, з апаўшым тварам, на якім разьлівалася вясёлымі праменьнямі ўхмылка. І шопат яго быў падобен шопату пажоўклага лісьця ў восень, якое круціцца ў паветры і аб чымся шчапаціць. Хто ведае, мо яно ў сваім шэпату кажа што-небудзь цікавае, але вуха чалавека ня ловіць тых мілагучных, тых прыемных зыкаў, ня ўнікае ў іх размову і не разумее іхняе тутаркі. Так і яго шопат нельга было зразумець. Ён адзначаўся адным словам „завіруха“. Звычайна пачуўшы слова „завіруха“, мы ўяўляем досыць пэўны малюнак: паўзе чорная, чорная хмара, бязьлітасны вецер уздымае цэлы слуп сьнегу і круціць яго, быццам адплясвае шалёны балет. І мы кажам: ах, якая завіруха на дварэ і неяк робіцца холадна на душы, смутак страшэнны агортвае ўсю істоту і, здаецца, плакаў-бы каб выліць нуду душы.

Ну, а ён разумеў зусім інакшую завіруху. Яна адбылася ў яго жыцьці. Яму ня было холадна, яму было горача, яму хацелася плакаць ня з нуды, а плакаць буйнымі сьлязьмі радасьці.

Тры гады... А ўсё роўна, як тры дні: так прамінулі, што і ня ўгледзеў.

І вось зараз, калі перад ім расьцілаецца новы шлях, калі ён стаіць на парозе новага, ён задумаўся. Раптоўна цэлы рой ўспамінаў падняўся з глыбіны душы. Вось успомніў ён адну цёмную верасьнёвую ночку, калі ён разьвітаўся з бацькамі, з вёскай і паехаў шукаць сабе шчасьця. Мэта была адна: убачыць сьвет у тым выглядзе, у якім ён ёсьць сапраўдна, скінуць з вачэй цемру. А запытаньні, нібы тыя лятуцені, адно зьмянялася другім. Ці-ж удасца дасягнуць, выканаць мэты, ці зможа скінуць цемру з вачэй, ці зьдзейсьніцца залатая мара, як паглядзіць на яго новы шлях? І, як бы у адказ, нейкі таемны голас цьвярдзіў: дарэмна ня ўзьбівайся на гэты шлях, ня едзь, усё роўна ня прымуць, працуй лепш у вёсцы; а другі, больш мацнейшы, нібы ў супярэчнасьці, зьвінеў: едзь, прымуць, прымуць, бо зараз Савецка Улада адчыніла шырока дзьверы дзеля ўсяго працоўнага люду. Толькі стараньне, толькі ахвота, а там усе добра будзе. І яму рабілася прыемна, а разам з тым жудасна, жудасна глядзець у будучыну, але нешта вабіць, нешта прыцягвае. З гэтакім настроем прыехаў ён у Воршу.

Грозна глянула памяшканьне, на якім крясаваліся агньвыя літары „РАБОЧЫ ФАКУЛЬТЭТ“, і нібы маўклівым поглядам запыталася: ці здолееш выканаць усе тыя запатрабаваньні і абавязкі, якія будуць ускладзены на цябе? І ён зразумеў погляд. Ён у думках даў абяцаньне перад сярмяжнай вёскай, што колькі хопіць сілы, будзе старацца.

Вось успамінае другі момант. Сядзіць за кніжкай і цяжка, цяжка разьбірацца вольнаму сокалу палёў у кніжных нетрах. Здаецца, што ніколі ня працярэбіць сабе сьцежкі, але гэта толькі здаецца. Бо ён не адзін. Яго вядзе вялікі правадыр-настаўнік з ліхтаром і асьвятляе чырвонымі праменьнямі шлях. Праўда, шлях цярністы, з усіх бакоў тырчаць шыпы, але-ж правадыр звыкся, бо ён ведае, што за шыпамі ўбачыць і кветкі. І вучань бядзёра шагае за ім.

Жыцьцё лілося крыніцай. Кожны дзень прыносіў новае. Аўдыторыя, сходы, пасяджэньні, лекцыі, зьмянялася адно другім. Усё жыло поўным жыцьцём. Бурлілі маладыя сілы, захопліваліся новым будаваньнем, выконвалі лёзунг „Грызі граніт навукі“. І ён папаў у вір, яго закруціла і насіла кожны дзень. Дзеля яго адчыняліся ўсё новыя старонкі жыцьця і ён ў захапленьні ня ўбачыў, як праляцела тры гады. О, завіруха, завіруха!..

І вось сёньня, калі ён стаіць на паўдарозе, калі адзін завулак пройдзен, застаўся яшчэ другі, ён дае новае абяцаньне: чакай сярмяжная, чакай працоўны люд. Прыдуць сейбіты культуры, падымуць цябе на ногі; вывядуць з таго балота, дзе жылі Вы цэлыя стагодзьдзі.

*Л. Ермаковіч*



Выпуск студэнтаў Аршанскага Рабфаку 1925-26 вуч. году разам з пэдагогічным складам III курсу.

# ВЫПУСКНІКУ.

Рыжыкаў.

Пад сьцягам працы і навукі
На шчасьце лепшага жыцьця,
Працуй штодзённа бяз прынукі,
Гартуй з сябе будаўніка.

Ты працаўнік. Да цяжкай працы
Табе ня трэба прывыкаць.
Ты сын сям'і магутнай рацы,
Што можа ўсё перамагаць.

Ты выпускнік вялікай кузьні,
Што сілы лепшыя куе,
Ідзі наперад, шлях твой трудны,
Але ня страшан ён табе.

РЭДКОЛЕГІЯ:
ЛЕВІНТАЎ
ПІСАРЭНКА
АКУЛІК
ЭПШТЭЙН
СІНЮКОЎ
РЫЖЫКАЎ
БУРСАК



Аршакрліт (Бел.) № 16480. Ворша, друк. выд. газ. „Комуністычны Шлях“ імя Ф. Скарыны. Зак. № 1380—500 паасаб.

